Нейкая нядзеля, другая прабегла хутка. Нават касцюма не купілі, быў у салдацкай форме. Люся ўся сіяла, яна не заўважала нічога і нікога. Яна “адбіла” Валодзю хутка і лёгка, вось ён ужо і муж. Маці, бацька, некалькі гасцей павіншавалі, пасядзелі за сталом, пакрычалі: “Горка”. Валодзя пабыў з жонкай час, адведзены яму як маладажону, і вярнуўся ў часць даслужыць месяц – другі.

Часта думкі нейкім сумам набягалі на яго, рабілі нярвовым, злосным, пісьмо-адказ ад колішняй сваёй каханай захаваў пад пагон, перачытваў, нават радаваўся, што яго пісьмо да яе не дайшло, што яна нічога не знае. Але яна знала, што ў іх з Люсяй атрымалася, прачытала з пісьма, не знала толькі дзень іх вяселля. Яна бачыла, як увіхалася гэтая Люська-школьніца каля яе Валодзі, але надзея на сілу кахання была мацней за рэўнасць, падазронасць. Вось і адказ напісала звычайны. Гэтым як бы пакідала за сабой і ім надзею, пакідала магчымасць на сустрэчу, на вяртанне.

Жыццё ў Люсі з Валодзем не заладзілася. Дайшло да таго, што пабіў Валодзя свайго цесця-начальніка, выбіў яму сківіцу, накрычаў на цешчу, пакінуў жонку і пайшоў на кватэру, бліжэй к заводу, дзе ўладкаваўся працаваць. Люська бегала, звала дамоў. Ён не вярнуўся. Сышоўся з жанчынай, сыходзіў ад яе, зноў вяртаўся. Ён шукаў сваю беларусачку з сінімі вачыма. Не знайшоў.

Знайшла яна яго цераз сваю аднакурсніцу, калі прыехала на курсы. Пры размове пачалі ўспамінаць знаёмых, хто дзе працуе, жыве. Валодзя жыў побач. Заспяшаўся на сустрэчу. Абое хваляваліся, нічога не гаварылі, глядзелі і трымаліся за рукі, як некалі. Можа

што б і атрымалася з іх сустрэчы, але ў яго хлынула кроў, заліла ёй твар, рукі, напоўніла яе сэрца страхам і нараканнем “Не цячэ рака назад, а цячэ наперад” – увесь час думалася ёй.

Тая сустрэча была першай і апошняй. Кожны з іх зразумеў: разам ім не быць.

## СКОЛЬКО ИХ ЕЩЕ У НАС?

Наши поздние драгоценные годы. Как быстро они летят. Только что было утро, а вот уже вечер, только было начало месяца, а вот уже последние его дни, только что начинали жить в новом году, а уже пора его провожать, встречать новый год. Что принесет этот год, чем порадует и удивит? О грустном не стоит думать. Старость на то и мудра, что умеет оценивать, взвешивать прожитое. Большинство имеет спокойствие и благополучие. Нельзя думать: «Вот, мне уже мало осталось». Надо каждый день встречать с радостью и благодарностью. В поздний период жизни нужно быть таким же творческим и жизнедеятельным. Многие уходят в себя, создают свой ограниченный мирок, одинокий, бедный, незащищенный. Замечают излишне мелкие обиды, копят их в себе, заставляют себя жить по каким-то установкам: «Это можно, нужно, а это нельзя». Во всем нужна мудрость, она накоплена за жизнь, стоит применить ее сейчас. Радуйте себя, а не ограничивайте мрачными мыслями, завистью, переликом своих болезней и недугов. Впереди целая жизнь, да, жизнь, ведь каждый прожитый год – это этап пути. На этом пути все время принадлежит нам, это время надо

наполнить смыслом, поддержкой, пусть и взрослым детям, внукам, общением с природой, созерцанием ее красоты и вечности. Немолодой возраст имеет свои ценности, нужно их рассмотреть, чтобы прожить долгую и здоровую жизнь, иметь в поздние драгоценные годы положительный настрой.

## РАДНЯ

**Мой бацька – Васіль** – быў чалавекам заможным, зборлівым, запаслівым. А яшчэ ён быў "единоличником". Да нас прыходзілі нейкія агенты, каб мы заплацілі падаткі за зямлю, за каня, за гаспадарку, за хату. Маці галасіла, калі нас абіралі. Мы, дзеці, прыціхалі, забіваліся ў куток. Бацька панура сядзеў за сталом, палажыўшы стомленыя рукі перад сабой. Калі арганізаваўся "колхоз", то ў нас забралі многае, нават конскую збрую. Бацька балюча гэта перажываў і накідваўся на работу з новай сілай. Маці хавала каліту, кашалёк з натуральнай скуры з многімі дзяленнямі, у кішэню бацькавай брываркі. Мы зналі, што там грошы і ў чырвонай хустачцы залатнікі – залатыя манеты. Гэты "капітал" быў на чорны дзень. Бацька адбудаваў вялікі дом, прыхапіўшы да яго кусок зямлі аж да рэчкі, пасадзіў сад, на той час рэдкасць, прасторны хлеў, прыбудоўкі, павецькі, купіў сячкарню, мы мелі свае жорны – малолі зерне на муку - мелі некалькі кароў, цялушак, коней. У нас быў свой калодзеж, мы не бегалі, як суседзі, за вадой па вёсцы. Бацька купіў часы насценныя з музыкальным боем. У нас быў патэфон і

пласцінкі: “Кукулечка”, “Гарэлі калхозы”, былі песні на нямецкай і польскай мове.

Бацька Васіль, або Базыль, меў некалькі гальштукаў, і мужчыны прасілі іх у яго на вяселле. Яшчэ прыходзілі да яго стрыгчыся, бо была ў бацькі свая машынка і вялікая складная брытва ў скураным футляры. Для нас, чатырох дзяўчат, бацька купіў швейную машынку “Зінгер”. А потым у бацькі быў “ровэр”, быў мапед, быў матацыкл. Бацька першым усё купляў, першым стараўся мець і гэтым ганарыўся, бо ўмеў збіраць і берагчы капейчыну. Маці ва ўсім была яму падмогай, ён гэта цаніў і любіў сваю Маню да апошняга. Слязіна, якая выкацілася з-пад закрыўшагася павека, была, мабыць, шкадаваннем аб тым, што пражыў толькі 76 гадоў. А быў моцным, як той дуб, як тое дрэва, што мог закінуць на плячо і несці доўга і крэпка.

Музыка для бацькі была ўсім. Ён заводзіў ручку патэфона, ставіў пласцінку ў радыёлу, мацней рабіў гук радыё на сцяне, уключаў тэлевізар – сам лажыўся на “дыван” і пасвістваў. Маці крычала: “Васіль! Пасаромеўся б дзяцей”. Бацька весела смяяўся і яшчэ мацней пасвістваў – любіў і цаніў жыццё.

Бабулю Ганну, сваю любімую бабулю, маміну маці, помню вельмі добра. Дзеда ўжо не было ў жывых, яна жыла адна ды мы, унукі, дзеці Марыі, Вані, Валі. Аляксей жыў ў Ленінградзе, Пеця яшчэ не быў жанаты. Воля жыла ў Востраве, потым – Уцёс. А памерла на Украіне ў сваёй дачкі. А Вера жыла ў Польшчы. Гэта сем дзяцей выхавала баба Ганна, мела многа ўнукаў, была вельмі прыхільнай да нас. Любіла мяне за мой голас. Я залазіла на самае высокае дрэва і спявала ўсё

тое, што бачыла, што складаў у словы мой розум. Чаромха каля бабінага акна белым воблакам укрывала мяне ад спёкі, давала мне мары і любоў да жыцця. Так, я ўжо тады любіла жыццё, хацела вырасці хутчэй і быць прыгожай і здаровай, бо была худой і хваравітай. Бабуля паіла мяне малаком і раніцай прыносіла з-пад яблыні яшчэ росны "белы наліў". Яблыкі люблю да гэтага часу. Люблю і помню сваю бабулю з Замошша, бачу перад сабой усю яе сядзібу, заможную і дагледжаную.

Вера... Вераніка... Маміна сястра. Вайшэвіч – дзявочае прозвішча. Служыла ў арміі Крайнова. Выйшла замуж за паляка, пражывала ў горадзе Жары, ваяводства Зялёна Гура. Была ў гасцях у 1953-1955г.г. Запомніла яе прыгожай, танклявай, з укладзенай прычоскай. Маці гаварыла, што яе муж – капрызны. Я вяла перапіску з імі яшчэ студэнткай, потым сувязь перарвалася. Хацелася б знайсці сваю цётку Веру праз Чырвоны Крыж...

У Мінску пражывае мой родзіч з боку мужа – Здзіслаў Сіцька, аўтар шматлікіх матэрыялаў аб мінуўшчыне, аб гераічных людзях, пра Грушаўку, дзе выраслі і мае дзеці. У 1994 годзе часопіс "Беларуская мінуўшчына" даў яго артыкул "Да ценяў Касцюшкі". Асобай Касцюшкі цікаўлюся і я, ёсць свае даследванні. Здзіслаў заходзіў да мяне ў госці, калі працаваў у Міністэрстве і быў тут з праверкай. Я тады працавла загадчыцай чытальнай залы дзіцячай бібліятэкі, на руках было двое дзяцей, цяжкае матэрыяльнае становішча, не хапала самага элементарнага для жыцця, не атрымлівала асалоды ад працы без школы. На жаль, дапамогі мне і маім дзецям ён не зрабіў, на маю просьбу

не адклікнуўся. На мае жыццёвыя пагляды не зрабіў ніякага ўплыву, хоць і займаўся кінематографам.

Мой хросны суправаджаў дыпламатычную пошту ў Пякін. У памяці засталіся яго кітайскія падарункі.

## ЦІ МОЖНА ТАК?

На працадуру сядзела некалькі жанчын, мужчына з газеткай у руках. Чарга няспешна пасоўвала да дзвярэй, з якіх выходзілі знаёмыя і незнаёмыя людзі, некаторыя віталіся, перакідваліся словам, пытаннем: “Як здароўе?”. К нашай чарзе дабаўляліся яшчэ людзі, вялі ціхую гаворку. Хутка да мяне дайшлі словы, што так вось жыццё распарадзілася. Але слухаць далей ужо не было як, мяне запрасілі ў кабінет. Тут мяне ўсадзілі на крэселка, ногі прыйшлося апусціць у ваду з лекамі, пасыпаўся пясок у часах, вочы самі прыкрыліся ад спакою і цяпла. А дзве маладзенькія санітарачкі працягвалі сваю размову, пачатак якой я пачула за дзвярыма. Гісторыя мяне ўразіла сваім трагізмам, я пачала даваць патрэбны ход нашай размове, раз-пораз ўставіўшы пытанні. Жанчына, аб якой вялася размова, была з бліжайшай вёскі, яе добра зналі, таму і прынялі блізка да сэрца ўсе падзеі. Некалі гэтая жанчына ўзяла да сябе жыць мужчыну, быццам, на кватэру. Што казаць, любіў ён выпіць чарку, мог і пабіцца нізашто з такімі ж, як ён, выпівохамі. Хаты не меў, аддаў быўшай жонцы, сам жыў у прыбудовачцы, адзеты быў з чужога пляча, але чыста, грошай многа не зарабляў. Вось і прыбіўся ён да жанчыны. Усе гаварылі, што яна нейкая не ў сабе, але з мужчынай зажыла спраўна. З’явілася і

гаспадарка, і соткі засаджвалі бульбай, і нейкае свінчо, і кароўка. А потым і дзіця нарадзілася. Дзяўчынка была. Ціхая, нейкая непрыкметная, у маці. Так і ішло іх жыццё. Памалу ўсё перайшло на плечы мужа, усё на яго рукі. Маці і дачка нічога ў доме не рашалі, не ўмелі, а можа і не хацелі, мужчына знаў, што купіць з яды, з адзежы, да якога доктара весці тую, ці другую. Людзі здзіўляліся яго пакладзістасці, самаахвярнасці. Іншыя гаварылі, што дабром гэта не скончыцца. Так яно і здарылася. За некалькі дзён згарэў мужчына. Ад чаго і як – ніхто не знае, бо да яго ўрача яны не вызывалі. Пасядзеўшы над ім, ціха ўтаропіўшыся ў полымя свечкі, пахаваўшы пры дапамозе суседзяў, яны як бы затаіліся ў доме. Потым маці прадала сёе-тое людзям, грошы пакінула на помнік, прыбрала дачку, сама пераадзелася ў чыстае. Іх бачылі, як яны двое накіраваліся ў бок ракі Бярэзіны. Ніхто благога не падумаў. Толькі рыбакі здалёк бачылі, што маці, узяўшы дачку за руку, увайшла ў раку, пастаяла, як бы развітваючыся са светам, і пайшла ўсё глыбей, вядучы за сабой і дачку. Так і забрала іх дваіх вада. Відаць, не змаглі яны без мужчыны, без яго апекі і падтрымкі, жыццё стала нялюбым.

Мы доўга маўчалі, працадура была закончана. На сэрцы застаўся смутак: "Чаму ж людзі так распараджаюцца сваім жыццём? Ці ж можна так?"

## СИЛА МУЗЫКИ

Мелодия, как женщина, имеет свою загадку. Однажды услышишь, и она держит тебя в своем плену и

десять, и двадцать лет. “Полонез Огинского” для меня самая щемящая музыка. На Украине, в поместье госпожи Ганской (Бальзак) в маленьком ресторанчике для меня и сына Игоря звучал этот полонез в исполнении местного музыканта. А заказал полонез “золотых зубных дел мастер”. Он провожал нас по наказу мужа в Столин. Тишина зальчика, тяжелые шторы на окнах, внимательность собеседника и обслуги, сознание того, что здесь бывала Эвелина Ганская, делали звуки еще мощнее, загадочнее, проникновеннее, запоминающе.

## КАНАЛ ОГИНСКОГО

Здесь я тонула. Отец ушел к шлюзу. Лодку носом он втянул в мягкую осоку, но вскоре она незаметно отошла от берега и начала отдаляться. Я выпрыгнула уже в воду, которая начала меня затягивать. Как выбралась, помню смутно. Зато помню хорошо Выгоновское болото с его легким шумом, печальным криком болотных птиц, мое мокрое пальто и испуганные глаза отца. Лодку нашли рыбаки. А отец сказал, что я буду долго жить. Вот и живу, слушая волнующие звуки “Полонеза Огинского” и вспоминая Канал Огинского.

От холода у деревьев обезумели глаза.
***
Зеркало – это друг и враг одновременно.
***
Душа и тело – два разных возраста.
***

Зависть – невидимый зверь, разъедающий человека изнутри.

***

Страсть что яд, она выжигает разум.

***

Время дорого. Чем же можно оценить его? – Жизнью.

***

Чалавечае вока...
Колькі табой бачана?
Колькі слез празрыстых
Табой страчана?

***

Вецер пад асенняй бярозай
Трасе лісце.
Выбірае прыгожае і цалуе –
Губы яго дыхаюць холадам зімы.

***

Ключ всегда оставляла в дверях –
Вдруг в дом зайдет счастье...

***

Не выбирай плохих подруг, приятелей – лучше заведи врага.

***

Беларусы – шчодрыя людзі. Раздаюць, дараць сябрам, суседзям, знаёмым нават тое, што і сабе дорага. Такая вось душа ў гэтага беларуса: чыстая і надзейная, без усялакай выгады.

***

Грошы маюць свае чары – з імі няма нудоты і адзіноцтва.

***

Годы, возраст и условность сброшены, как одежда у стены.

Мы знаем: нам нужна лишь малость...

Души порыв, как хрустальные цветы.

***

Все силы вышли. Пройден путь до края.
Сначала не начать его.
Так пусть душа
Легко летит до Рая,
Открыть ворота для ее.

***

Хвароба не пытае, дзе цябе сустрэць.

***

Море плещет о берег,
Бьет о берег волной.
Мы с тобой снова вместе,
Ловим брызги рукой.
Ветер нежно ласкает,
Солнце жаром печет.
На волне жизнь помчалась,
Не стоит, а течет.

***

Купіў ён ёй
Французскія духі
Мясцовага разліву.
Успыхнуў чырванню

Яе ўвесь твар,
І радасць паддалася дзіву:
Бо быў скупы ён, нелюдзімы,
А вось купіў духі,
Мясцовага разліву.

## ТЫ ЖЫВІ

Не шкадуй таго, што ўжо прайшло.
Бо не вернеш і не перайначыш.
Ты жыві, як лёсам ужо пайшло,
Будзе добра ўсё, ты хутка сам адзначыш.
Сонца будзе шчодра ззяць над галавой
Усміхнецца рэчка, луг, ракіты вецце.
Ты жыві, як лёсам ужо пайшло,
Радуйся шчасліва ўсяму ў свеце.
Жыцця мудрасць дасць табе наказ,
Ціш душы, дарогі спакайнейшай.
Ты жыві, як лёсам ужо пайшло,
І шукай свет зоркі найярчэйшай.

***

*"Если хочешь, чтобы тебя любили - люби!"*
*Сенека*

Не встречайтесь с первою любовью.
Пусть она останется для вас
Синей птицей, улетевшей в небо,
Или свечою, догоревшей в поздний час.

Поднимаясь утром и на сон прощаясь,
Говорите милые слова
Той, которая давно уж с вами,

А не той, которая одна.
Не помчались к ней вы, не позвали,
А оставили на произвол судьбы.
Вот теперь считайте сердца сбои
И напрасно прожитые дни.

*Август 1997г.*

## ФРОНТОВЫЕ ДОРОГИ

Дороги... Фронтовые дороги...
Как много по ним мы прошли.
Несли вы опасность, несли вы тревоги,
Мы вами, дороги, жили.

Друзей мы теряли, в боях оставляли
Лежать на родимой земле.
Чтоб завтра подняться в бою, во весь голос
Кричать: "За родную страну!"

Мы знали, что это - земля наша,
Дом наш и крепость,
Стоять будем насмерть, врагу не сдадим.
И падали в травы у самой дороги,
Но знали: тебя защитим.

Дорогой войны мы дошли до Берлина,
Пилотки мочили скупою солдатской слезой.
Тебе, моя родина, Победу дарили,
Гордились тобою одной.
И вот нас осталось совсем уж немного...
Фронтовые дороги давно позади.

Но если вдруг родине трудно и больно -
Мы встанем,  и дети, и внуки -
Ты только нас, Родина-мать, позови.

*Май 2003г.*

## ПОБЕДА

Ордена положили на почётное место,
Рядом сели седые давно ты и я.
Вспоминали войну и горячие вёрсты
И глаза застилала невольно слеза.
Как давно это было и как же недавно
Провожавши сказала: « Иди!»
И ни сна, и ни отдыха –
Только надежда
И желание победы в груди.

## ЗБЯНТЭЖЫЛА "ПЯЦЁРКАЙ"

Поезд спыніўся. Я разам з усімі выйшла на прывакзальную плошчу, агледзелася, з радасцю ўдыхнула паветра родных Баранавічаў і рушыла да аўтобуса. Але вымушана была азірнуцца, бо пачула сваё імя. Перада мной стаяў высокі сур'ёзны мужчына ў светлым касцюме. "Добры дзень, Ніна Васільеўна. Рады вас бачыць. Вы дамоў? Сядайце, падвязу. Калі ласка".

Я збянтэжылася. Што адказаць гэтаму чалавеку? І адкуль ён ведае мяне? Я так рэдка бываю дома.

Добра ўглядаюся ў твар: дзесьці ў вачах хаваецца дзіцячая сарамлівасць, капрызна падняты вусны. Мой былы вучань! Гэта ж Толя. Вось дык сустрэча!

Памяць перакінула мяне гэтак гадоў на 20 назад, калі я маладой настаўніцай прыехала працаваць на Ляхаўшчыну. Да ўрокаў рыхтавалася заўсёды старанна, бо хацелася, каб вучні палюбілі мой прадмет, каб палюбілі і мяне. Здаецца, усё ішло добра. На ўроках ціха, вучні няблага адказваюць. Але што гэта? Толя ўжо на двух уроках не адказвае, сядзіць абыякавы, толькі зацятая капрызнасць на вуснах. Гэты клас я ведала мала, першы год з ім, і калі паглядзела на адзнакі, то ў Толі па маім прадмеце былі адны "тройкі".

І вось зноў урок. Зноў апытванне. Вучні адказваюць. Каго хвалю, каму раю падвучыць больш дасканала. Выклікала і Толю. Ён штосьці стараецца адказваць, без асаблівай ахвоты, каб была, як заўсёды тройка. Мяне раптам апаноўвае злосць: адкуль такая абыякавасць? Чаму? Хто вінаваты? Што здарылася?

Але спакойным голасам патрабую дзённік і стаўлю ... пяцёрку. Гляджу на Толю. На нейкі момант у яго вачах збянтэжанасць – сарамлівасць. Я – ні слова. Ён – ні слова. У класе на хвіліну здзіўляючая цішыня. Але я працягваю ўрок, хутка званок. Праз некаторы час на ўроку Толя падняў руку на адказ. На другі ўрок падрыхтаваў дадатковы матэрыял. А потым неяк зачытаў мне словы майго любімага Грахоўскага:

Калі прыходзіць неспадзеўна сталасць,
Каб не блукаць паміж дабром і злом,
Прайдзі выпрабаванне на трываласць,
На непахіснасць,
На разрыў, на злом.

Мабыць гэтыя словы былі для яго вельмі важнымі, калі сам знайшоў, сам выбраў. Сталі яны і для мяне

важнымі, не забыліся мне, маладой настаўніцы. Толя атрымаў выдатную адзнаку, а я атрымала вялікую асалоду ад майго такога “педагагічнага эксперыменту”.

І вось перада мной не Толя, а Анатоль Аляксандравіч. Мы глядзім адзін на аднаго і ўсміхаемся, бо кожны ўспомніў той час, калі правяраліся свае сілы.

Села ў машыну. Перад вачыма замільгацелі дамы, пустыя крамы, прапаў салодкі ўспамін пра маладосць, спахмурнеў твар. Былы вучань адгадаў мае думкі і зноў мяне падтрымаў, сказаўшы, што нельга губіць самаадданасць, агонь, любоў, няхай вучні ўспамінаюць добрым словам, няхай растуць з іх сапраўдныя людзі.

Я згодна маўчала, а ў думках перанеслася ў школу, у клас. Там мяне чакаюць.



# ШКОЛЬНЫЯ СЮЖЭТЫ

## У палоне

Чаго толькі не здаралася пад час школьнай працы. Пагадзіцеся, што праца настаўніка складаная, трэба мець сэрца, якое поўніцца любоўю да жыцця, да сваіх выхаванцаў, трэба ісці са сваімі вучнямі шляхам навукіі выхавання.

Помню, я тады працавала настаўніцай у Ляхавіцкім раёне. Ішоў звычайны ўрок. У класе ціха, усе вучні працуюць, толькі парыпваюць парты, усе навідавоку. Але што гэта? Няма звычайнага роўнага шнурка дзіцячых галоў. Дзе ж гэта Віця? Не прасіўся выйсці, сшытак ляжыць на месцы, ручка, партфель. Няма толькі самога Віці. У класе шоргату ніякага, няма цікаўных позіркаў. Усё звычайна. Падыходжу да парты: галава Віці там, у парце, на лаўцы ўсё астатняе.  Кранула , ціхенька за плячо: "Вылазь, працягвай працу". Ды не, з-пад парты  ўсё мацней і мацней чуецца плач хлапчука, бо ён нё можа выцягнуць галаву, перашкаджаюць вушы, якія моцна заціснула парта. Я збянтэжылася, але ж яму патрэбна дапамога. Клас ужо назірае, пасміхаецца. Мне вызваўся дапамагчы высокі і моцны вучань, які падняў парту, а я ціхенька пачала "выкручваць" з пякельнага ярма галаву Віці. Нарэшце паказаўся і заплаканы твар, чырвоныя вушы, вінаватыя вочы. Клас грымнуў смехам. Усе ведалі, што гэты вучань любіў на ўроку перакусіць пад партай, але каб залезці ў парту — такога ніхто не чакаў.

## Вінаватая лінейка

Да гэтага ўрока рыхтавалася старанна, Адчувалі гэта і вучні: сталі ур'ёзнымі, уважлівымі. І не дзіва — прыедуць настаўнікі з навакольных вёсак, бо ў Ліпскай школе будзе адкрыты ўрок. Дзяўчынкі ў прыгожых карычневых сукенках з белымі каўнерыкамі, у белых фартушках, хлопчыкі — у сініх касцюмчыках і блакітных кашулях (тады была адзіная школьная форма). Перад вачыма — дошка з падрыхтаваным запісам, нагляднасць. Словам, усё так, як патрабавала тады методыка. У канцы класа селі настаўнікі-прадметнікі, завуч — чалавек гэтак 15. Я хвалююся, але сябе супакойваю: "Чаго? Гэта ж не першы ўрок, ды і не апошні. Трымайся", Але хваляванне хутка апраўдалася. Калі я пачала чытаць тэкст і дайшла да слоў: "Пачуўся рэзкі крык..." — крык і пачуўся. Мой крык. Крык сполаху, бо прама ў мяне са свістам праз увесь клас з сярэднага рада ўрэзалася стальная лінейка, гонар Колі і зайздрасць класа. Ён замацаваў яе дугой у стол, "падрыхтаваў" для працы. Нешта "справакавала" лінейку, і яна на вялікай хуткасці паляцела ў настаўніка. Можаце ўявіць, якія патрэбны былі сілы і тактыка, каб давесці да канца той адкрыты ўрок, за які потым мяне хвалілі.

## Выхад

Быў у мяне вучань у Пружанскай школе: не было ў яго цягі да вучобы, не было жадання стаць лепшым сярод вучняў. На яго шмат наракалі настаўнікі,

журнал "стагнаў" ад дрэнных адзнак. Не хацеў ён паказаць сябе і на маім уроку: Але што ў ім, гэтым вучні, было? Меў ён свой падыход да вучнёўскай справы. Як толькі не вывучыць урок, то спяшаецца да мяне з прапановай. І так ціхенька падыдзе, напомніць мне аб тым, што ў кабінеце працякае кран і яго ўжо даўно трэба адрамантаваць, а заўгас школы заняты. Дык ён, маўляў, не супраць зараз жа заняцца рамонтам, вось і ключ ёсць, усё напагатове.

Гэты вучань даўно ўжо дарослы, сам гаспадар у доме, і, хутчэй за ўсё, краны ў яго кватэры ў парадку. Ну, а "дзядзька-кухар" няхай выбачае.

***

Отзвенели годы, как звоночки
Под дугою быстрого коня.
Поседели косы, потускнели очи -
Нет в них жаркого огня.

Гости отшумели, разошлися,
Не сидят у моего стола.
Если и заходят - забегут подруги
Рассказать про тайные дела.

Вы куда умчались, золотые годы?
Где искать вас, как просить назад?
Только эхо тихо стонет в парке...
Жизнь годам давно уж не даёт возврат.

## ДРАГОЦЕННЫЙ ДРУЖОК

Вьюга завьюжила
Пылью седою
И без того поседевший висок.
Годы промчались шальной чередою.
Где ты теперь, драгоценный дружок?
Кто тебя любит,
И кто как прощает
В дальней ненужной дали?
Ты мены помнишь –
Это я знаю –
И по ночам не кляни.
Помни, что было – уплыло
Тонкою нитью души.
Ну, а любовь и разлуку постылую
Рюмкой вина заглуши.

***

Солнце садилось.
Земля собиралась
Ко сну.
А я глядел в небо
И ждал
В миллиарде одну
Звезду,
Чтоб сказать:
- Храни меня много
Лет,
Храни
От множества
Бед.



***

Нясвіж – не Парыж.
А ўсё ж ён славен
І замкам, і даўнінай.
І паркам, што раскінуўся ўшыр
Прывабнаю стракатою тканінай.
Касцёл тамтэйшы, старадаўні вулкі
Хаваюць тут князёвы крокі.
Гады прайшлі, але мы можам
Гісторыі аддацца гулкай
І зберагчы ўсё, як ёсць,
Каб дзеці, нашы ўнукі
Са школы знаі Радзівіла,
Што беларуская зямля

Людзей цікавых шмат радзіла.
***
Не правда ли, все вышло просто:
Уехали, надежду увозя.
И снова одиночество и сумрак
Всю душу затопили мне сквозя.
Ну что поделаешь.. Вы далеко,
Забыли думать обо мне сейчас.
Свои заботы и свои сомненья
Разъединили снова нас.
Я не виню вас и не укоряю,
За то, что было, я благодарю.
И если беды вам случатся и несчастья,
Я вас всегда у двери подожду.

***
Мой сон, как тонка паутина,
Чуть ветер дунет – ее нет.
Мой сон так легок и прозрачен!
С ним ладу нет уж много лет.
Сложу я руки для молитвы
На сон грядущий, на покой.
И мысли устремятся к Богу:
- Не уходи, Господь, побудь со мной.

## ГОДЫ
Стучится старость
Старческой рукою
В моё окно:
- Смотри, уж я пришла!
Встречаю гостью я без радости,

С тоскою.
Пуста душа. И жизнь моя пуста.
Все, что имелось в жизни,
Что хотелось,
Я воплотила в детях все до дна.
Оберегала, пестила, растила
И не заметила, что осени пора.

Белеет волос сединой, как снегом.
И ночи стали длинными, без сна.
Друзья ушли в отставку, постарели.
Душа без радости. Бедна…

***

*Ю.В.*

Вы говорили: “Вы намного старше
И нам встречаться не резон!”
Но я глазами говорила: “Ваша!”
И мы бросались напролом.
Были заботы и обиды.
И слезы были невпопад.
А вот сейчас душа омыта
И сердце, как осенний листопад.
Я не в обиде. То, что было,
Осталось в нас на много лет.
И пусть уже давно не вместе,
И пусть горит прощальный свет…
Но просыпались рано утром,
Смеясь бежали кто куда,
Чтоб вечером собраться снова –
Минута кажда дорога.

## ЗИМА

Зима, как гламурная дама,
Наряд белоснежный одела.
Рукав серебристый деревьям
Связала крючком
Все искусно поддела.

Капризная дама и озеро
В лед заковала.
Себе же на память, в усладу,
Журчанье глубокой реки оставляла.

Бриллиантами усыпала поле,
Лугов снеговую гладь,
Мороз подослала под шубы.
Ну, что тут с проказницы взять!

***

Когда мучит тоска - не сдавайся,
Когда горе придёт - отгрусти.
Только белых седин не пугайся
И за рюмкой вина не сиди.
Когда все вдруг друзья отвернуться,
Позабудут подруги тебя -
Подставь солнцу лицо, свою душу
И цепляйся за жизнь, всё любя.
Почему говорю так о жизни?
Потому что я знаю в ней толк!
Жизнь должна веселить и искриться,
Как на женщине праздничный шёлк.

**Паэтам быць добра**: усе помняць. Помню і я. Напісаў паэт на вокладцы "Ніне Дыдышка Барадулін Грышка". Праз гады сустрэліся ў Пружанах, 2001 год. Напісаў: "Шаноўнай спадарыне Ніне Васільеўне Дыдышка, паклон і дзякуй **Рыгор Барадулін**".

**Брылю Янку** абяцала яшчэ ў 5 класе вучыцца на "пяць". Хвалявалася, ён лагодна супакойваў, трымаючы за руку. Ваяваў разам з Козікам, дырэктарам Ліпскай школы.

**Алесь Каско** падарыў свой подпіс пад фота ў кнізе. Быў снежань 2006г.

**Сяргей Законнікаў**. Падарыў кнігу "Устань да сонца". 1976 год.

**Сяргей Грахоўскі**: "Ніне Дыдышка на добры ўспамін". Яго кнізе "Дзень нараджэння" 47 гадоў у гэтым годзе. Люблю верш "Як я жыў без цябе?"

**Мікола Купрэеў** – запомніўся з сустрэчы ў "Палацыку". Маю кнігу "Непазбежнасць".

**Аляксей Карпюк**. Знаёміліся ў Гродзенскім краязнаўчым музеі. Любіла чытаць яго "Дануту".

**А.Клышка** з Баранавіцкага раёна, мой зямляк.

У Брэсце сустракалася ў "Палітпросе" з **У.Карпавым, А.Куляшовым, Е.Лось**. З **У.Караткевічам, В.Казько, І.Далідовічам** была разам на сустрэчах.

**Вольга Іпатава** прапанавала сваю дапамогу, будучы на сустрэчы ў "дарослай" бібліятэцы недзе ў 2005-2006 годзе. Маю аўтограф.

**Леанід Дранько-Майсюк** помніцца маладым хлопцам. Мая сям'я жыла ў Століне, а ён вучыўся ў Давыд-Гарадоцкай школе, побач. Праз шмат гадоў гэтае суседства паўплывала – я напісала верш пад яго ўплывам, друкавалася ў "Зары".

**Пятруся Броўку** запомніла з фразы: "Пятрусь Броўка піша лоўка".

**Уладзімір Калеснік** вучыў мяне ў інстытуце. Помню на экзамене сказаў: "Табе, Дыдышка, траянцы ў лодцы прывязлі "чацвёрку", я адказвала "Энеіду навыварат". Але мяне любіў, цаніў мае адказы. Дзякуючы яму люблю літаратуру.

**Мікола Пракаповіч**. З ім вучылася ў педінстытуце. Многа было гутаркі паміж намі ў Брэсцкай тэлестудыі, куды я прыехала разам з хорам і мела слова перад тэлегледачамі.

**Мікола Папека**. Сваёй думкай, поглядам на жыццё, глыбынёй паэтычных радкоў умее запаланіць душу, зрабіць паклонніцай энергетычнага патэнцыялу.

# КУТОК ЗЯМЛІ СВЯТОЙ І РОДНАЙ

Я добра помню сваю хату,
Яна мне помніцца і цяпер,
З акна аўтобуса глядзела,
З вучобы пад'язджаючы ў чацвер.

І так усе гады чатыры
Мне чуўся водар, родны пах.
А за спіной стаяла Заліпенне,
Наперадзе, па леву руку, родны дах.

Мяняліся жыцця мясціны,
Спаліўшы вольны час датла.
І ўсё ж спяшалася дахаты,
З буслінным клёкатам жытла.

Час бег няўмольна, неўгамонна,
Крышыў, ламаў жыццё і лёс,
А Ліпскі перапоўнены аўтобус
К кутку святому мяне вёз.

Стаіць і хата, і падворак,
Пустыя вокны вецця між,
І ўжо наперадзе, па праву руку,
Шукае вока скону крыж.

Куток зямлі святой і роднай!
З табой зраслася я навек,
Бо без цябе – як бы без сэрца,
Як тая слёзка з-пад павек.

Май, 2004 в.Ліпск

# Змест

Рэдактар: *Ніна.Дыдышка*
Мастацкае афармленне: *Наталля Пашкевіч-Гер*
Камп’ютэрны набор: *Алена Носік*

Тыраж 30 экз.